©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016

Аляксандр Быстрык

# Газета “Biełarus” (1913–1915) і яе месца ў беларускім грамадстве пачатку XX стагоддзя

Газета “Biełarus” з'яўляецца неапраўдана маладаследаванай старонкай беларускай гісторыі. Яна засталася ў цені больш паспяховай і больш знакамітай газеты беларускага Адраджэння канца XIX пачатку XX стагоддзя – “Нашай Нівы”. У цені ж “нашаніўскага” руху застаўся і рух рэлігійна-патрыятычны, а яго прадстаўнікі апынуліся забытымі. Зразумела, ігнараванне феномена “Biełarusa” адбылося часткова і праз ідэалагічныя ўстаноўкі беларускай савецкай гістарыяграфіі. Калі “Нашу Ніву” гісторыкі савецкага часу яшчэ маглі інкарпараваць у агульны наратыў беларускага мінулага, то прысутнасць у ім беларускіх нацыянальна арыентаваных ксяндзоў была лішняй. Таму не дзіва, што толькі ў апошнія дзесяцігоддзі дзейнасць такіх значных беларускіх дзеячаў, як Францішак Будзька, Аляксандр Астрамовіч, Казімір Сваяк, Баляслаў Пачобка і іншых, пачынае прыцягваць увагу беларускіх гісторыкаў.

Натуральна, “Biełarusa” трэба разглядаць перш за ўсё ў кантэксце рэлігійна-патрыятычнага (галоўным чынам каталіцкага) кірунку развіцця беларускага нацыянальнага руху. Асаблівую цікавасць дзейнасць Будзькі, Астрамовіча, Сваяка і іншых выклікае таму, што іх асяродак можна лічыць папярэднікам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, якая адыграла заўважную ролю ў беларускім жыцці міжваеннай Польшчы. Такім чынам, аналіз феномена “Biełarusa” важны для разумення ўсяго беларускага каталіцкага руху першай паловы XX стагоддзя.

У гэтым артыкуле газета разглядаецца з некалькіх пазіцый. Для агульнага разумення кантэксту робіцца агляд гісторыі моўнай палітыкі каталіцкага касцёла на беларускіх землях, каталіцкага беларускага руху, а таксама нарыс агульнай гісторыі “Biełarusa” і біяграфіі асобных дзеячаў, звязаных з гэтай газетай. Найбольш цікавымі падаюцца некаторыя характарыстыкі газеты “Biełarus”, а таксама асаблівасці дачыненняў газеты з грамадствам беларуска-літоўскіх губерняў. Асаблівая ўвага надаецца аналізу лістоў чытачоў і карэспандэнтаў у рэдакцыю, а таксама даследаванню газетнай палемікі паміж тагачаснымі віленскімі выданнямі розных палітычных кірункаў з аднаго боку і “Biełarusam” – з іншага.

Праца складаецца з чатырох частак, кожная асвятляе асобныя аспекты пастаўленай праблемы. Спачатку на аснове прац Адама Станкевіча, Аляк-

сандра Смалянчука, Сяргея Токця, Міхаіла Далбілава, Алега Гардзіенка і Наталлі Анофранка зроблены кароткі экскурс у гісторыю рэлігійна-патрыятычнага руху і моўнай палітыкі каталіцкага касцёла на беларускіх землях. Другая частка працы прысвечана непасрэдна гісторыі "Biełarusa". Дзеля гэтага былі выкарыстаныя працы Аляксандра Надсана, Уладзіміра Конана, Адама Станкевіча і матэрыялы самой газеты. У трэцяй частцы даследавання разглядаецца праблема чытача "Biełarusa" на падставе матэрыялаў газеты (лістоў чытачоў, адказаў чытачам). Таксама праведзены статыстычны аналіз гэтых матэрыялаў. Апошняя частка працы аналізуе рэакцыю віленскіх газет на выданне "Biełarusa" і далейшую палеміку з гэтым выданнем. Быў праведзены аналіз шэрагу газет рознай скіраванасці: "Виленский Вѣстник", "Вечерняя газета", "Наша Ніва", "Саха", "Aušra", "Lietuvos žinos", "Vilties", "Gazeta codzienna" "Kurjer Litewski", "Kurjer Krajowy", "Przegląd Wileński".

Увага да вывучэння гісторыі "Biełarusa" была звернута яшчэ ў даваенны час, а само выданне лічылася важнай вяхой гісторыі беларускай хрысціянскай плыні. Так, інфармацыю пра газету "Biełarus" змяшчае Адам Станкевіч ў сваёй працы "Беларускі хрысціянскі рух (гістарычны нарыс)" (Станкевіч, 2008). Сярод сучасных беларускіх даследчыкаў вывучэннем "Biełarusa" займаліся, бадай што, толькі Уладзімір Конан, чые матэрыялы трапілі ў адпаведны артыкул у Энцыклапедыі гісторыі Беларусі (Конан, 1993) і Аляксандр Надсан, які ў сваёй кнізе "Княгіня Радзівіл і спроба адраджэньня Уніі ў Беларусі" пісаў пра першую беларускую каталіцкую газету (Надсан, 2006). Больш матэрыялаў апублікавана пра беларускі рэлігійна-патрыятычны рух. Пра яго пісаў яшчэ Адам Станкевіч (1929) у сваёй кнізе "Biełaruskaja mowa ŭ światyniach", а таксама Аляксандр Надсан. Цікавым з'яўляецца артыкул Алега Гардзіенкі і Наталлі Анофранкі (2002) "Агляд моўнай палітыкі рымакаталіцкага касцёла на Беларусі ў XX ст.". Важным даследаваннем ў галіне рэлігійнай палітыкі расійскага ўраду на беларуска-літоўскіх землях стала кніга Міхаіла Далбілава (2010) "Русский край, чужая вера...". Некаторыя дакументы, якія тычацца гэтай тэмы, знаходзяцца ў Бібліятэцы Акадэміі навук Літвы.

## I. Перадумовы стварэння "Biełarusa"

Працэс беларускага культурнага "накаплення", гэта значыць сукупнасць падзей грамадскага жыцця, якія спрыялі ўключэнню беларускай мовы ў культуру эліты і фармавалі самабытную гістарычную ідэнтычнасць, цягнуўся ўсё XIX стагоддзе (Смалянчук, 2009). Людзі розных нацыянальнасцяў (не толькі "тутэйшыя"), часта самі таго не ведаючы, працавалі на карысць будучага беларускага руху: запісвалі беларускую гісторыю, занатоўвалі беларускія звычаі і традыцыі, даследавалі мову і культуру. У выніку назапашаныя веды, уяўленні, ідэі былі скарыстаныя першымі беларускімі адраджэнцамі для фармавання цэласнай нацыянальнай ідэалогіі.

Натуральна, розныя групы беларускіх актывістаў мелі свае ўлас-

нае бачанне будучай беларускай нацыі. Адпаведна, гэтыя групы мелі прыхільнасць да розных ідэй, стваралі падмурак сваёй версіі беларускай нацыянальнай ідэалогіі. Можна вылучыць шэраг кірункаў, якія знаходзілі сваіх прыхільнікаў: этнічна-моўны, сацыялістычны, дзяржаўніцкі, кансерватыўны, рэлігійны (Смалянчук, 2009). Натуральна, што прадстаўнікі розных кірункаў падтрымлівалі ўзаемныя кантакты, абменьваліся ідэямі, змянялі свае пазіцыі ці ўвогуле пераходзілі ў іншы лагер, таму часта правесці дакладную мяжу паміж плынямі вельмі складана. У рэшце рэшт у дарэвалюцыйны перыяд самай жыццяздольнай апынулася этнічна-моўная плынь нацыянальнай ідэі, якая была сфармулявана і распрацавана ў "Нашай Ніве".

"Biełarus" прадстаўляў іншае крыло "Адраджэння", а менавіта яго "клерыкальна-патрыятычны" варыянт, як сфармуляваў гэта Антон Луцкевіч.[1] Беларускае каталіцкае духавенства было занепакоена пашырэннем сацыялістычных ідэй сярод моладзі і бачыла ў гэтым пагрозу сваёй уладзе і аўтарытэту. З іншага боку, клір разумеў усё яшчэ магутны ўплыў рэлігіі на народ, частка святароў паспрабавала скарыстаць гэты ўплыў для развіцця новай ідэалогіі – нацыянальнай. Гэтая група складалася з некалькіх дзясяткаў нацыянальна свядомых каталіцкіх святароў і семінарыстаў, якія аб'ядноўваліся ў гуртку ў Горадні, Віленскай духоўнай семінарыі і Духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Апошняя ўстанова сталася асабліва важнай для развіцця беларускага каталіцкага руху, бо там маладых клірыкаў захвочалі да нацыянальнай дзейнасці больш сталыя дзеячы адраджэння, як, напрыклад, прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла (Станкевіч, 2008: 473–483). Група маладых ксяндзоў ясна разумела, што касцёл з'яўляўся ці не самым моцным паланізуючым фактарам на тэрыторыі Беларусі. Яны ж імкнуліся скіраваць патэнцыял касцёла на справу беларускага нацыянальнага Адраджэння. Таму нельга лічыць "Biełarusa" аналагам "Нашай Нівы", толькі напісаным польскай лацінкай. Нягледзячы на вонкавае падабенства, дзве газеты мелі розны кірунак і праследавалі часткова розныя мэты. Пра гэта сведчаць і канфлікты, якія ўзнікалі паміж газетамі (Biełarus, 1915 №18). Рэдактары першай каталіцкай беларускай газеты ставіліся негатыўна да некаторых сацыялістычных выказванняў у "Нашай Ніве", а нашаніўцы крытыкавалі "Biełarusa" за падзел народа па рэлігійнай прыкмеце. "Biełarus", безумоўна, быў больш спецыялізаванай газетай, накіраванай на дакладна акрэсленую аўдыторыю. Таму ён толькі часткова быў канкурэнтам больш левай "Нашай Нівы". Безумоўна, газета не магла ўзнікнуць на пустым месцы, яна была запатрабаваная значнай часткай беларускага грамадства і заняла пустую да гэтага нішу беларускай каталіцкай газеты.

Варта зрабіць невялікі гістарычны экскурс у прадмет моўнай палітыкі каталіцкага і ўніяцкага касцёлаў. Беларуская (старабеларуская) мова

[1] Цытуецца па: Смалянчук, 2006: 303–310.

прысутнічала ў дзейнасці касцёла ужо з XV стагоддзя (пераклады рэлігійных тэкстаў, катэхізмаў і гэтак далей). Нават пасля таго, як у 1697 годзе адзінай мовай справаводства ў ВКЛ была абвешчана польская, (стара)беларуская мова заставалася ва ўжытку ў некаторых сферах касцельнага жыцця (Туронак, 2008). Тым не менш рыма-каталіцкі касцёл, усё больш і больш набываў рысы польскай нацыянальнай царквы, дзе польская мова выкарыстоўвалася ў дадатковым набажэнстве і ў рэлігійнай літаратуры. Больш павольнымі тэмпамі польская мова пашыралася ва ўніяцкіх бажніцах. Паколькі на той час грэка-каталіцкая вера была збольшага верай сялянскай, клір быў зацікаўлены ў выкарыстанні зразумелай народу мовы. Таму менавіта знішчэнне уніі ў 1839 годзе стала сапраўдным ударам па захаванні беларускай мовы ў храмах. Уніяцкі біскуп Сямашка, які далучыў уніятаў да праваслаўнай царквы, выдаваў загады, якія забаранялі выкарыстанне народнай мовы ў цэрквах (Stankiewicz, 1929: 34–51).

Што тычыцца рыма-каталіцкага касцёла, то тут царскія ўлады напачатку працавалі, як ні дзіўна, на карысць паланізацыі. Паколькі каталіцкая вера ўспрымалася расійскімі ўладамі як чужая самой ідэі расійскай нацыі, напачатку забаранялася выкарыстанне нават рускай мовы ў касцёлах (Долбилов, 2010: 460–461). Сітуацыя змянілася пасля студзеньскага паўстання 1863–1864 гадоў. Расійскія чыноўнікі бачылі ці не самую вялікую небяспеку ў каталіцкім касцёле, разумеючы, што ён з'яўляецца трывалай апорай пальшчызны на гэтых землях. Узяўшы курс на ўзмоцненую русіфікацыю краю, чыніліся спробы перавесці касцёл на рускую мову. Так, у 1869 годзе ксяндзам дазволілі прамаўляць казані на *"расійскай мове ці яе гаворках"* (Токць, 2011: 144–145). Гэты дазвол даў магчымасць спробам гвалтоўнага насаджэння расійскай мовы ў касцёлах Мінскай губерні ксяндзом Сенчыкоўскім (Смалянчук, 2001: 152–153). Такія дзеянні маладога і амбіцыйнага ксяндза выклікалі моцную адмоўную рэакцыю як каталіцкіх вернікаў (у тым ліку і беларускамоўных сялян), так і каталіцкіх іерархаў. Такім чынам, высілкі царскіх уладаў увесці ў касцёл рускую мову не набылі поспеху, хутчэй наадварот – распалілі антырасійскія сентыменты сярод каталікоў (Долбилов, 2010: 680–686).

Улічваючы гэта, некаторыя расійскія чыноўнікі спрабавалі распалячыць касцёл шляхам выкарыстання беларускай мовы. Пра гэта сведчыць наступная вытрымка з ліста расійскага пасла ў Ватыкане: *"...юное поколение духовенства со всею готовностью будет в н.александр. уезде* [Нова-Аляксандраўскі павет Ковенскай губерні – А.Б.] *беседовать с белоруссами на их природном языке и распространять среди них на белорусс. яз. книги, доведет их до того, что станут себя считать белоруссами, принадлежащими к великой русской семье"* (Коли котолики…). Як ні парадаксальна, расійскія ўлады спрабавалі русіфікаваць беларусаў з дапамогай беларускай мовы (Stankiewicz, 1929: 34–70).

У пачатку XX стагоддзя, а ў прыватнасці пасля рэвалюцыі 1905 году і Маніфесту 17 кастрычніка, бела-

русізацыя касцёла не была ўжо такой нерэальнай мэтай, як, скажам, у пачатку XIX. Яскравым сведчаннем гэтага з’яўляецца дакумент тагачаснага віленскага біскупа Эдварда Ропа, у якім зазначана: *“Для дзяцей, якія ўжываюць беларускую мову ў пачатковых школах, дапускаецца ў меры патрэбы тлумачэнне прадмету па-беларуску”.*[2] На працягу першага дзесяцігоддзя XX стагоддзя быў надрукаваны шэраг каталіцкіх кніг на беларускай мове –“Элементар для добрых дзетак-беларусаў”, “Катэхізм”, “Святая Гісторыя”, “Касцёльныя абрады”. Ідэя беларусізацыі касцёла актыўна прапагандавалася кс. А. Астрамовічам (паэтам Андрэем Зязюляй) на старонках “Нашай Долі”, “Нашай Нівы” і “Гомана”. У Віленскай духоўнай семінарыі з 183 выпускнікоў 1912 года 24 вызначылі сябе беларусамі – нечуваная да гэтага лічба. Ствараліся беларускія сваяцтвы і асветніцкія гурткі пры духоўных семінарыях у Пецярбургу, Інсбруку і Мюнхене (Анофранка і Гардзіенка, 2002). Нельга не ўзгадаць княгіню Магдалену Радзівіл – шчодрую магнатку і прыхільніцу беларускасці, якая шмат сілаў і сродкаў ахвяравала і на справу беларусізацыі касцёла. Яна дапамагала фінансава самому “Biełarusu”, студэнцкім гурткам пры духоўных семінарыях, непасрэдна некаторым студэнтам (у прыватнасці, будучаму рэдактару “Biełarusa” Б. Пачопку), спрабавала набыць будынак для стварэння беларускага каталіцкага асяродка. Яе мэтай было таксама і адраджэнне уніі на Беларусі (Надсан, 2006: 17–20). Улічваючы гэта, стварэнне Францішкам Будзькам і Аляксандрам Астрамовічам “Biełarusa” можна назваць заканамернай з'явай, якой папярэднічаў перыяд развіцця ідэі беларускамоўнага нацыянальнага касцёла.

## II. Гісторыя і структура “Biełarusa”

Такім чынам, “Biełarus” быў заснаваны намаганнямі ксяндзоў Ф. Будзькі і А. Астрамовіча. Гэтыя асобы з'яўляліся выдатнымі прадстаўнікамі рэлігійна-патрыятычнага кірунку беларускага “Адраджэння”, таму варта распавесці пра іх больш падрабязна.

Францішак Будзька нарадзіўся на Вілейшчыне. Навучаўся ў Будслаўскай Вілейскай і Віленскай народных школах. Пасля – у каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Ужо ў семінарыі пачаў перакладаць малітвы і казані на беларускую мову. У духоўнай акадэміі, куды ён трапіў пасля семінарыі, прачытаў “Дудку Беларускую” Францішка Багушэвіча, што значна паўплывала на ягоную самасвядомасць. Там жа яго беларускасць умацаваў прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Ужо падчас навучання ён цярпеў за свае перакананні, і з-за гэтага яго доўгі час не хацелі высвячаць у ксяндзы. Але, дзякуючы добрым адносінам паміж Будзькам і біскупам Данішэвічам, гэтая праблема была вырашана. Пасля акадэміі быў накіраваны ў Полацак, дзе і служыў вікарыем.

[2] Цытуецца па: Анофранка і Гардзіенка, 2002.

Апроч выдання “Biełarusa” за сваё жыццё Будзька пераклаў шэраг каталіцкіх кніг на беларускую мову, карыстаўся ёю ў набажэнствах, хацеў стварыць пад Полацкам асобную беларускую парафію (Stankiewicz, 1929: 75–83).

Аляксандр Астрамовіч (А. Зязюля) нарадзіўся на Ашмяншчыне. Як і Ф. Будзька, пасля павятовай школы трапіў у духоўную семінарыю ў Пецярбургу. На яго беларускую свядомасць моцна паўплываў ксёндз Адам Лісоўскі – адзін з першых беларускіх адраджэнцаў. Таму Астрамовіч ужо ў семінарыі пачаў пісаць вершы на беларускай мове. З часам яго вершы пачалі друкавацца ў “Нашай Ніве”, “Светачы”, “Вольнай Беларусі” і інш. Вершы дэманстравалі прыдатнасць беларускай мовы для ўжытку ў касцёле, пазней Астрамовіч нават прамовіў жалобную казань на беларускай мове па князю Юрыю Радзівілу (Stankiewicz, 1929: 75–83).

Дзякуючы гэтым людзям і была заснавана газета “Biełarus”. Але з-за кансерватыўнасці духоўных уладаў яны ніколі афіцыйна не былі ў складзе рэдакцыі (Надсан, 2006: 20).

Адным з ініцыятараў, стваральнікам і першым рэдактарам гэтай газеты быў ксёндз Антон Бычкоўскі, які быў таксама і беларускім паэтам (Гарбінскі, 1999). Праз год “Biełarusam” стаў кіраваць Баляслаў Пачопка, які, як і многія іншыя актывісты беларускага каталіцкага руху, атрымаў адукацыю ў сценах Віленскай духоўнай семінарыі. Пачопка зрабіў вялікі ўнёсак у беларускі каталіцкі рух: апроч “Biełarusa” надрукаваў шэраг беларускамоўных кніг – “Życcio papieża Piusa X”, “Czalawiek na wyszyni cwajoj hodnaści”, “Boh z nami. Biełaruski madliteunik” (Jelski, 1914; Paczorka 1915a; Paczopka, 1915б). Пасля Расійскіх рэвалюцый 1917 года стаў прыхільнікам адраджэння уніі ў Беларусі; у 1925 быў высвечаны ў святары па ўсходнім абрадзе (Маракоў, 2002а). Сябрамі рэдакцыі былі таксама Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) і Ян Пазняк (Надсан, 2006: 21). Антон Лявіцкі – беларускі празаік, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй “Виленскаго вѣстника”, потым актыўна працаваў карэспандэнтам і друкаваўся ў “Нашай Ніве”. Перайшоў у рэдакцыю “Biełarusa” адразу ж пасля адкрыцця газеты (Маракоў, 2002б).

Першы нумар, які выйшаў 13 студзеня 1913 году, змяшчаў праграму газеты, па якой яна павінна была працаваць: *“Biełarus budzie zaŭsiody stajać na hruncie chryścijanska-katalickim, baroniaczy sprawu chryściajanskuju i biełaruskuju”* (Biełarus, 1913 №1).

Фінансавае становішча газеты на пачатку яе існавання было даволі складаным. Той факт, што сама рэдакцыя знаходзілася ў прыватнай кватэры Б. Пачопкі, яскрава адлюстроўвае гэта. Пра цяжкае становішча піша сам Б. Пачопка: *“Па выхадзе 1-га нумару ў 1913 г. людзі добрай волі прысылалі свае то прадплаты, то падмогі, чаго стала на якія 3–4 нумары, але хутка ў касе было пуста і з часапісам круха... Неяк у гэтым часе паслаў Бог помач: штось даў ксёндз Францішак Будзька, штось кс. Астрамовіч, а ў канцы заінтэрэсавалася часапісам княгіня М. Радзівіліха, каторая сыстэ-*

*матычна пакрывала даўгі «Biełarusa» аж да яго закрыцця”* (Надсан, 2006: 20).

Падзея, якая значна паўплывала на прэстыж газеты адбылася ўвесну 1914. Адзін са сталых карэспандэнтаў “Biełarusa” Ільдэфонс Бобіч (Пётра Просты) на аўдыенцыі ў Папы Рымскага Піюса X атрымаў блаславленне яго першасвятарства для рэдакцыі, супрацоўнікаў і чытачоў газеты.

Агульны характар газеты быў у значнай ступені кансерватыўным. У прыватнасці, не было моцнай крытыкі ўладаў, заахвочвалася праца ў роднай вёсцы, прапагандаваўся здаровы лад жыцця, крытыкавалася іміграцыя. Менавіта таму рэдактары газеты шчыльна супрацоўнічалі з блізкай ім палітычнай плынню краёўцаў (Р. Скірмунт, М. Радзівіл). Аб гэтым сведчыць і грашовая падтрымка “Biełarusa” з боку М. Радзівіл.

Сама газета ўяўляла сабой даволі спецыялізаванае выданне. Выкарыстанне польскай лацінкі як асноўнага шрыфту было натуральным – менавіта гэты шрыфт быў больш знаёмым і родным беларусу-каталіку. Значная частка тэксту адводзілася на каталіцкі каляндар, расповеды пра веру: жыцціі, казані, прытчы. Публікаваліся таксама вершы і апавяданні. Рэгулярнымі раздзеламі газеты былі: “Piszuć da nas”, у якім змяшчаліся рэпартажы карэспандэнтаў, а таксама лісты ў рэдакцыю; “Kaściolnyja wedamaści”, дзе паведамляліся апошнія навіны як Магілёўскай архідыяцэзіі, так і Рымска-каталіцкага касцёла ўвогуле. Наступнымі раздзеламі газеты былі: “Szto czuvać?” у выглядзе стужкі навінаў (галоўным чынам з Расійскай імперыі), “Usiaczyna”, дзе друкаваліся розныя цікавыя факты, а таксама прыказкі, прымаўкі, жарты і загадкі, “Swaja Poczta”, у якім друкаваліся адказы чытачам і карэспандэнтам. Пачынаючы са жніўня 1914 года, у газеце быў уведзены спецыяльны раздзел пад назвай “Wajna”, дзе публікаваліся актуальныя весткі з фронту. Апошнюю старонку газеты рэдакцыя пакідала на абвесткі.

Апроч выдання самой газеты рэдакцыя ўзяла сабе за мэту стварыць маленькую бібліятэку беларускай каталіцкай кнігі. За час існавання “Biełarusa” быў выдадзены шэраг кніг на беларускай мове: “Niekalki slou ab spakuse”, “Karotkaje wyjasnennie abradau R. Katalickaha Kasciola”, “Z rodnaha zahonu” і іншыя (Надсан, 2006: 22; Budzki, 1914; Banczkowski, 1914; Astramovicz, 1914).

“Biełarus” стаў платформай для развіцця маладых беларускіх літаратараў. Варта пералічыць тых, хто друкаваўся на старонках газеты: Гэнрык Бэта (Г. Бярозка), дыякан Канстанцін Стаповіч (Казімер Сваяк), клірыкі Ільдэфонс Бобіч (Пётра Просты), Язэп Рэшаць, Альберт Паўловіч, Альфонс Петрашкевіч, Язэп Шпэта, Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) і інш. Як бачна, “Biełarus” аб'ядноўвае шырокае кола беларускіх рэлігійных дзеячаў, эліту беларускага хрысціянскага руху, значная частка якой займала высокія пасады і мела навуковыя ступені.

Як ужо згадвалася, “Biełarus” не быў радыкальным выданнем, але і ён не абмінуў цэнзуры. У пачатку

вайны некаторыя яго нумары выходзілі з белымі плямамі, прычым цэнзураваныя матэрыялы не заўсёды тычыліся ваенных дзеянняў (Biełarus, 1915 №4, 6, 7, 17). Не лепшым чынам ставілася да працаўнікоў нацыянальна-рэлігійнага адраджэння і Віленская дыяцэзія. Пра гэта сведчаць факт, што для дазволу на друк (imprimatur) ад духоўнай улады трэба было звяртацца ў Петраград да архібіскупа.

Такім чынам, можна сказаць, што "Biełarus" адыгрываў значную ролю ў адраджэнскім руху. Ён стаў важнай пляцоўкай рэлігійна-патрыятычнага руху, аб'яднаўшы яго найбольш актыўных дзеячаў.

## III. Аўдыторыя газеты "Biełarus"

Для вызначэння асобы сярэднестатыстычнага чытача газеты, былі прааналізаваны раздзелы газеты "Piszuć da nas" і "Swaja poczta". У першым раздзеле звычайна друкаваліся артыкулы карэспандэнтаў пра нейкія здарэнні ці з'явы, артыкулы саміх чытачоў і непасрэдна іх лісты. У раздзеле "Swaja poczta" даваліся адказы чытачам і карэспандэнтам на іх лісты ці запыты.

Першапачаткова ў раздзеле "Piszuć da nas" друкаваліся толькі артыкулы карэспандэнтаў, але з цягам часу там пачалі з'яўляцца і матэрыялы чытачоў, дасланыя ў рэдакцыю. Можна лічыць, што рэзананс ад з'яўлення газеты быў даволі моцны, бо ў чацвёртым нумары газеты рэдакцыя піша: *"Wiel-mu ks B-u i usim prychilnikam naszaj pracy dziakujem z usej duszy z ŭsiaho serca, ale addrukouwać ŭsie waszyje listy nam nia zmoha: ich naslali bolsz czym mahli my spadziewacca..."* (Biełarus, 1913 №4).

Што тычыцца геаграфіі чытачоў "Biełarusa", то яе ізноў жа можна вызначыць, аналізуючы раздзелы "Piszuć da nas" і "Swaja poczta". У раздзеле "Piszuć da nas" за тры гады выдання газеты было надрукавана блізу 210 артыкулаў ці лістоў чытачоў. Пераважная большасць тэкстаў – 133 альбо 65% была з Віленскай губерні. З гэтага ліку большая частка дасылалася з Віленскага, Вілейскага, Свянцянскага і Ашмянскага паветаў. Другое месца займала Гродзенская губерня, адкуль у рэдакцыю дайшло 25 лістоў або 12%. Затым ішла Мінская губерня з 20 лістамі (9%). Асабліва актыўнасцю тут вылучаліся Ігуменскі і Слуцкі паветы. Ковенская і Магілёўская губерні даслалі па тры лісты (1,5%).

Як можна пабачыць, газета распаўсюджвалася і чыталася збольшага на Віленшчыне, што натуральна, бо большая частка беларусаў-каталікоў жыла менавіта там. Тым не менш відавочная канцэнтрацыя чытачоў ў Віленскім і сумежных паветах дазваляе зрабіць вывад, што "Biełarus" не змог ахапіць мэтавую аўдыторыю цалкам, а менавіта ўсіх беларусаў-каталікоў.

Асобна былі падлічаны артыкулы, дасланыя ў рэдакцыю з-за межаў беларускага краю. Іх колькасць была даволі значная – 21 ліст альбо 10%. Геаграфія лістоў была даволі шырокая. Вылучалася, канешне, сталіца імперыі – Пецярбург, адкуль дайшло і было надрукавана 5 тэкстаў. Шмат матэрыялаў дасылалася ад чытачоў з Сібіры (Сімбірск, Томск,

**Табліца 1. Карэспандэнцыя “Biełarusa” па губернях**

| Губерня | Колькасць карэспандэнцыі (з 205) | Адсотак |
|---|---|---|
| Віленская | 133 | 64,9% |
| Гродзенская | 25 | 12,2% |
| Мінская | 20 | 9,8% |
| Ковенская | 3 | 1,5% |
| Магілёўская | 3 | 1,5% |
| Замежжа/іншыя губерні | 21 | 10,2% |

*Крыніца:* “Biełarus” 1913–1915, Wilnia: Znicz

Перм). Аўтар пад псеўданімам “Syn Biełarusi I. M-ki” перыядычна пісаў у рэдакцыю са Ржэва. Для прапаганды супроць эміграцыі ў “Biełaruse” з'явіўся ліст з Амерыкі (Mahanay City), дзе аўтар заахвочваў сялян заставацца на сваёй зямлі. Адзін ліст быў дасланы з Кіеўскай губерні. З пачаткам вайны пачалася весціся карэспандэнцыя з фронту. Агулам у раздзеле “Piszuć da nas” з'явілася 5 тэкстаў з прыфрантавой паласы. Але самае істотнае, што можна вывесці з гэтых дадзеных, гэта тое, што абсалютная большасць лістоў прыходзіла не з гарадоў, а з фальваркаў, вёсак, засценкаў, і ў меншай ступені мястэчак. Гэта можна лічыць натуральным, бо на пачатку XX стагоддзя беларуская інтэлігенцыя не была шматлікай і большасць беларусаў, а менавіта для іх і выдавалася газета, жылі ў вёсках.

Варта адзначыць, што прынамсі частка чытачоў “Biełarusa” належала да нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі. Пра гэта сведчыць тое, што некаторыя падпісчыкі чыталі іншыя газеты. Пра гэта, у сваю чаргу, сведчыць раздзел “Swaja poczta”, дзе рэдакцыя адказвала на лісты аб артыкулах пра “Biełarus” у іншых газетах: ***“Naszym czytarom u Wilni.*** *Na zapytańnia niekolkich pavažnych czytarой czamu* ***«Biełarus»*** *niczoha ne pisaй u adkaz na staćci «Нашай Нівы (№8)» і «Виленскаго вѣстника» (№3560)...”* (Biełarus, 1915 №13). ***“«Szczyramu Biełarusu»*** *Na niesprawiadliwyja napadki Sałanewiczaйskaj hazety «Северно-западная Жизнь» nie adkazwali i nie budziem...”* (Biełarus, 1914 №49). ***“«W-mu H. Cz-mu.»*** *Listoй takich jak Wasz – atrymałi my niamała. Dyk pryznajemsia, ni znajem szto mahło Was i druhich naviaśći na takija dumki dy sumlewańnia szto roznica pamiż hazetami hetymi [“Нашай Нівай” і “Biełarusam”– А.Б.] – wialikaja”* (Biełarus, 1913 №9). Гэта паказвае, што “Biełarus” быў вядомы ў беларускім нацыянальна-дэмакратычным асяродку.

Тэматыка лістоў была таксама даволі разнастайная. Умоўна падзяліўшы ўсе навіны на катэгорыі атрымаўся наступны вынік: больш за ўсё навін (26%) было звязана са здарэннямі (звычайна крымінальнымі ці нешчаслівымі) – пажарамі, няшчаснымі выпадкамі, забойствамі, самазабойствамі, стыхійнымі бедствамі і гэтак далей; другое

месца – 17%, займаюць краязнаўчыя нататкі. Людзі былі вельмі заахвочаны распавесці пра сваю мясцовасць – вёску, мястэчка, фальварак, – расказаць шырокаму колу людзей пра свае праблемы ці поспехі. Надзвычай шмат увагі надзялялася тэме п'янства і праблем, звязаных з ім, – блізу 15% тэкстаў былі прысвечаны менавіта гэтаму. Высмейваліся людзі, схільныя да алкагалізму, прыводзіліся сумныя прыклады, да чаго гэта можа давесці, шмат інфармацыі давалі аб паспяховай барацьбе – закрыцці манаполек, шынкоў, корчмаў, тракціраў па заяве жыхароў мясцовасці. Такім чынам даваўся прыклад іншым. Такую ж долю (15%) займалі крымінальныя навіны – у гэтую катэгорыю ўваходзілі весткі пра крадзяжы, забойствы, махлярствы, рабункі і гэтак далей. Становішча краю на пачатку XX стагоддзя паказвае тое, што толькі каля 12% навін інфармавалі пра нейкія станоўчыя падзеі. У гэтую катэгорыю былі аднесены весткі аб адкрыцці нейкага новага прадпрыемства, якое б працавала на карысць людзям, пра пазітыўныя захады з боку дзяржавы, пра добры ураджай і гэтак далей. Каля 6% навін складаліся з вестак аб культуры. Людзі распавядалі пра беларускія вечарынкі, будаўніцтва касцёлаў і цэркваў, святы і святочныя працэсіі, тэатральныя пастаноўкі і канцэрты. Падзякі рэдакцыі складалі 6% ад усіх лістоў. Былі лісты, якія пераконвалі сялян не пераязджаць у горад, былі лісты, дзе чалавек проста разважаў над існуючым светам, над лёсам Беларусі, альбо выказваў сваю думку датычна тых ці іншых пытанняў. Падсумоўваючы, можна сказаць, што рэдакцыя газеты намагалася ахапіць усе сферы жыцця у раздзеле “Piszuć da nas”. Гэта паказвае таксама рознабаковую зацікаўленасць чытачоў газеты.

Трэба таксама звянуць увагу і на мову тэкстаў. Калі гэта піша не сталы карэспандэнт ці ксёндз, мова простая з дамешкам дыялектызмаў і паланізмаў: *“Pieraczytwaju jaje ja pa razой kalki i adzin i prad susiedziami, paśla iznой zabiraju da siabie b składwaju, kab u kancy roka sszyć u ksionżku na pamiatku”* (Biełarus, 1914 №6). Ужыванне паланізмаў зразумела: папершае, большасць чытачоў пісала і чытала толькі па-польску; па-другое, беларуская мова тады не была дакладна ўнармаваная, і таму сялянам прыходзілася ўжываць запазычаныя словы для абазначэння асобных аб’ектаў (у дадзеным выпадку “кнігі”).

Гендэрны склад чытачоў па зразумелых прычынах быў няроўны. Да сярэдзіны 1914 года ў газеце друкаваліся адны мужчыны. Толькі ў 19 нумары “Biełarusa” за 1914 год з'явіўся першы артыкул чытачкі, якая была, хутчэй за ўсё, з ліку арыстакратыі ці буржуазіі, бо пісала пра вандроўкі па Еўропе. У 1915 годзе павялічваецца колькасць жанчын-сялянак, што пішуць лісты. Можна меркаваць, што прычынай такой змены стала мабілізацыя ў Расійскай імперыі. Як і ва ўсёй Еўропе, жанчыны, якія заставаліся сам-насам з сям'ёй і гаспадаркай, больш актыўна ўцягваліся ў грамадскае жыццё.

Такім чынам, з аналізу лістоў чытачоў можна зразумець некаторыя асаблівасці чытацкай аўдыторыі газеты “Biełarus”. Перш за ўсё бачны

яе геаграфічны абсяг, а менавіта – сучасная паўночна-заходняя Беларусь і Віленшчына. У той жа час вялікая доля лістоў з-за межаў Беларусі паказвае на тое, што газета была вядомая і частцы беларускай іміграцыі. Гэтаксама з лістоў вынікае і сацыяльны статус чытачоў. Натуральна, што большасць чытачоў “Biełarusa” былі сялянамі ці прынамсі мелі сялянскае паходжанне.

## IV. “Biełarus” на старонках перыядычнага друку

Улічваючы поліэтнічны характар грамадства беларуска-літоўскага краю пачатку XX стагоддзя, падаецца натуральным, што рэакцыя на дзейнасць “Biełarusa” была неадназначная. Існавалі розныя палітычныя сілы, і кожная з іх мела сваё стаўленне да беларускай каталіцкай газеты. Варта разгледзець тры асяродкі: непасрэдна беларускі нацыянальны рух, а таксама польскі і расійскі. Таксама цікава прааналізаваць стаўленне літоўскага “Адраджэння”.

Бадай што самы цікавы водгук на выданне “Biełarusa” з'явіўся ў галоўнай на той момант беларускай газеце “Наша ніва”. У трэцім нумары за 1913 год, на першай старонцы быў надрукаваны артыкул пад назвай “Новая газета”. Аўтар артыкула спачатку адзначыў пазітыўныя бакі “Biełarusa”: *“Нумэр выдан жыва; рэдакцыя, відаць, вельмі рупілася, каб чытачы знайшлі ўсяго па крысе.”* Тым не менш далей ідзе супрацьпастаўленне “Нашай Нівы” і “Biełarusa”, які, па словах аўтара, падзяляе беларускі народ: *“задача «Нашае Нівы» ёсьць і была заўсёды такая: паказаць беларусам, што яны ёсьць адно племя [...] яны здалеюць змагацца толькі тады, калі будуць ісці разам, дружна, не гледзячы на тое, што адзін моліцца ў царкве, другі ў касьцёле [...] цяпер адкрылася газета толькі для каталікоў. Чы захоча, чы здолее яна пайсці па дарозе еднасьці брацкай усіх беларусаў?”* Такім чынам, нашаніўцы лічылі, што стварэнне каталіцкай газеты ізноў падзяляе беларусаў і можа зашкодзіць беларускай справе.

Хоць “Наша Ніва” і прызнае шматлікасць накірункаў Адраджэння: *“Нацыянальнае адраджэнне беларускае плыве рознымі ручайкамі, але сіла нашага народу толькі тады зробіцца вялікай і магутнай, калі ўсе тыя ручайкі імчацца да адной мэты”*, – тым не менш аўтар застаецца скептычным наконт “Biełarusa”: *“Калі новая газета гэта зразумее, калі яна не згубіць па дарозе да сваёй чыста-каталіцкай мэты беларускіх нацыянальных ідэалаў, дык ад яе застанецца не малы след у беларускім руху. Пажывем пабачым”* (Наша Ніва, 1913 №3). З усяго гэтага артыкула вынікае, што нашаніўцы насцярожана паставіліся да “Biełarusa”. З аднаго боку, гэта вынікала з таго, што на старонках “Нашай Нівы” пастаянна акцэнтавалася ідэя з’яднанай беларускай нацыі без уліку наяўных канфесійных адрозненняў. З'яўленне ж беларускай каталіцкай газеты магло ўспрымацца “нашаніўцамі” як пагроза асноўнай ідэі. З іншага боку, большасць рэдакцыі “Нашай Нівы” складалі са-

цыялісты, якія апрыёры крытычна ставіліся да рэлігіі.

Што характэрна для "Biełarusa", у газеце не быў надрукаваны адказ на нашаніўскі артыкул, якога чакалі чытачы. Тым не менш у раздзеле "Piszuć da nas" рэдакцыя растлумачылі сваю пазіцыю: *"Ni adkazwali my «Нашай Ніве» na jaje staćciu й 3-cim numery tamu, dzielia czaho ne dali adkazu i inszym hazetam, ci jany adazwalisja ab nas dobra ci drenna. Apiakunoй ni abiareszsia nikoli. Ahryzacca ż z ŭsimi ni majem ni mejsca ni achwoty; tym bolej jeszcze i tamu, szto palemika (a pa sposabu jakim jana wiadzecca papraŭdzie – hazetnaja łajanka) da prahramy «Biełarusa» ne nalezhyć."* Больш таго, рэдакцыя "Biełarusa" пацвердзіла размежаванне ў беларускім руху пра якое казала і "Наша Ніва": *"Redakcija «Biełarusa» apracza mowy dy ahulnaho biełaruskaho kierunku niczoho supolnaho z redakcijaj «Нашай Нівы» ni maje"* (Biełarus, 1913 №9). Такім чынам, з'яўленне "Biełarusa" у нейкім сэнсе азначыла тое, што беларускі нацыянальны рух не абмяжоўвацца этнамоўнымі актывістамі з "Нашай Нівы".

Іншыя выданні беларускіх дэмакратаў таксама надавалі ўвагу газеце. "Вечерняя газета" і "Kurjer Krajowy", якія, як вядома, выдаваліся беларусамі (у тым ліку братамі Луцкевічамі, што маскіраваліся пад расійскіх і польскіх дэмакратаў-прагрэсістаў), надрукавалі артыкулы з нагоды з'яўлення новай беларускай газеты. "Вечерняя газета" абмежавалася толькі кароткай нататкай: *"Вышелъ №1 «католической» газеты на белорусском языке подъ названіемъ «Biełarus». Газета печатается только латинскимъ шрифтомъ. Будет выходить еженедельно. Редактор издатель А Бычковскій"* (Вечерняя газета, 1913 №13). Але варта заўважыць, што слова "католической" рэдактары паставілі ў двукоссе, што можа азначаць скептычнасць рэдактараў расійскай прагрэсіўнай газеты наконт новага выдання. "Kurjer Krajowy" апублікаваў паўнавартасны артыкул, дзе ён таксама выказваўся даволі скептычна пра новую газету. Прадстаўляючы ідэі краёвасці, выдаўцы газеты баяліся, што беларускі рух можа набыць шавіністычныя рысы: *"Падобная сітуацыя і з адраджэнскім рухам беларусаў. Да апошняй пары ён лунаў адзіным штандарам, які нёс на сабе незнішчальны дэвіз гуманізму: свабода, роўнасць, братэрства. Вызвольны рух быў пазбаўлены шавіністычных рыс, яднаўся на грунце супольнай працы каталікоў і праваслаўных. Тым не менш зараз з'явілася нешта новае – газета к а т а л і ц к а я* [выдзелена аўт.] *«Biełarus» друкаваная лацінкай, што сведчыць пра тое, што беларускі рух раздзяліўся. Гэты факт, безумоўна, сведчыць пра тое, што беларускі рух расце. Літоўскі нацыяналізм паказаў нам, што мы павінны змяніць сваё стаўленне да беларускага народу. Мы павінны змагацца з сепаратысцкімі і нацыяналісцкім настроямі да таго, як яны змогуць стаць папулярнымі. Мы павінны адкінуць усе нашы забабоны і жыць разам з беларускім народам, супольна будуючы агульнае дабро"* (Kurjer Krajowy, 1913 №12).

Як мы бачым, аўтар адзначае што з'яўленне "Biełarusa" стварыла падзел у беларускім руху. Гэтым пазіцыя "Kurjera" падобная да пазіцыі "Нашай Нівы", што натуральна. "Kurjer" крытыкуе літоўцаў (якія на той момант адмовіліся ад ідэй краёвасці і ўзялі курс на фарміраванне нацыі на этнічна-моўнай глебе) і выказвае асцярогу, што беларускі рух можа набыць тыя ж рысы. Ва ўяўленні аўтара, спалучэнне клерыкалізму і нацыяналізму можа даць дрэнныя вынікі.

Беларуская сялянская штомесячная газета "Саха" нічога не напісала пра "Biełarusa". Зрэшты "Саха" была даволі спецыялізаваным выданнем, таму гэта нельга лічыць дзіўным.

Цікавая пазіцыя польскіх і расійскіх выданняў. Польская "Gazeta codzienna" не толькі дала інфармацыю, але таксама падзялілася сваім меркаваннем наконт новага выдання: "*Ад беларускай «Нашай Нівы» адрозніваецца не толькі тым, што друкуецца лацінскім шрыфтам, але і тым, што не падбухторвае народ супраць палякаў*" (Gazeta codzienna, 1913 №13). Тут варта адзначыць два факты. Першае, гэта тое, што рэдакцыя проціпастаўляе два выданні, спадзеючыся на прапольскі кірунак "Biełarusa". Другое – гэта тое, што друкаванне лацінкай застаецца ў вачах "Gazety" важнай адзнакай польскай культурнай арыентаванасці.

Іншая польская газета "Przegląd Wileński" таксама паведамляе пра новае выданне, пры тым аналізуючы "Gazetu" і "Kurjer Krajowy": "*З'яўленне гэтай газеты сведчыць пра рост беларускага руху, які, як відаць, прыгарнуў нават частку духавенства. З гэтай нагоды «Kurier Krajowy» абвясціў, што беларускі рух можа набыць шавіністычныя рысы, на ўзор літоўскага руху, у той час як зычлівае стаўленне «Gazety Codziennej» падкрэслівае польскія тэндэнцыі «Biełarusa». У дадзены момант цяжка вырашыць, на чыім баку слушнасць. Пабачым*" (Przegląd Wileński, 1913 №3). Рэакцыя "Przeglądu", на маю думку, з'яўляецца адлюстраваннем рэакцыі ўсяго польскага грамадства, а менавіта – адчуваннем няўпэўненасці. З аднаго боку, каталіцкае выданне, якое да таго ж ужывала лацінку, мусіла мець польскі ўхіл, але з другога – свядомыя беларусы-каталікі былі пагрозай для ўплываў польскага касцёла.

"Kurjer Litewski" абмежаваўся кароткім тэкстам дакладна такога ж зместу, як і навіна "Вечерней газеты" (Kurjer Litewski, 1913 №15).

Больш змястоўнай была рэакцыя на новую каталіцкую газету ў "Виленскаго Вѣстника". Спачатку рэдакцыя выдання сціпла праінфармавала чытачоў (так сама як і "Вечерняя газета" і "Kurjer Litewski"). Але праз нумар быў надрукаваны артыкул пад назовам "Biełarus": "*13 января вышелъ первый номеръ новаго изданія на белорусском нареечіи «Bielarus». Это уже третье по счёту періодическое изданіе на этом наречии. [...] Ни языкъ, ни шрифтъ газеты не оставляютъ никакого сомнения въ томъ, что это развитіе белорусской народности будет направлено не въ сторону общаго русскаго ствола. Но, съ другой стороны, первый нумеръ газеты не*

*содержитъ достаточныхъ данныхъ для того, чтобы судить, является ли это изданіе непосредственным плодом покаянія местныхъ поляковъ въ отчуждённости отъ беларускаго населенія и попыткой найти путь для общения съ нимъ, или же оно является необходимымъ дополненіемъ къ тому комплекту изданій, представительницами котораго являются «Наша Ніва» и «Вечерняя газета»"* (Виленский Вѣстник, 1913 №2895).

Трэба заўважыць падкрэсленае адмаўленне беларускай самабытнасці, чаго можна было чакаць ад такога выдання. Замест беларускай мовы ўжываецца тэрмін "бѣлорусское нарѣчіе". Адмаўляецца нават прыналежнасць беларусаў да выдання газеты, а рэдакцыю называюць "палякамі". Як і нашаніўцы, расійскія нацыяналісты не ведаюць, чаго чакаць ад новага выдання. З пэўнай доляй фанабэрыстасці яны спадзяюцца, што гэта газета паслужыць *"покаяніемъ местныхъ поляковъ".* З іншага боку, яны баяцца, што газета выдаецца тымі ж людзьмі, якія стварылі "Нашу Ніву" и "Вечернюю газету", хоць на гэтым месцы, хутчэй, можна паставіць "Kurjer Krajowy".

Адзначыла з'яўленне "Biełarusa" і літоўская газета "Aušra": *"Ужо з'явіўся першы штотыднёвік беларускіх католікаў «Biełarus». Першы нумар газеты стварае вельмі прыемнае уражанне"* (Aušra, 1913 №2). Як мы бачым, стаўленне літоўскіх адраджэнцаў было, хутчэй, станоўчым, але пры гэтым такія літоўскія газеты як "Lietuvos žinos", "Vilties" праігнаравалі гэтую падзею, што сведчыць пра невялікую зацікаўленасць беларускімі справамі.

Такім чынам, з'яўленне "Biełarusa" выклікала пэўны рэзананс у віленскай прэсе, прычым рэакцыі былі неадназначныя як з беларускага, так і расійскага ды польскага бакоў. Зрэшты палеміка з "Biełarusam" працягвалася і далей. Напрыклад, у 1914 годзе рускамоўная газета "Сѣверно-западная Жизнь" надрукавала артыкул, які датычыў у тым ліку і "Biełarusa". Як і раней, у адказ на лісты чытачоў рэдакцыя адмовілася працягваць спрэчку з выданнем, напісаўшы: *"**«Szczyramu Biełarusu»** Na niesprawiadliwyja napadki Sałanewiczaŭska hazety «Северно-западная Жизнь» nie adkazwali i nie budziem..."* (Biełarus, 1914 №49).

У нумары 8 "Нашай Нівы" за 1915 год быў надрукаваны артыкул, які абвяргаў нападкі Яна Еленьскага на беларускі нацыянальны рух. У гэтым артыкуле ізноў жа перапала і "Biełarusu": *"Пан Ян Еленьскі паведамляе польскае грамадзянство, бытцым «у мінуўшым гаду першае мейсцэ заняў рух каталіцка-рэлігійны. Орган гэтай групы – «Беларус» друкуецца лацінскім шрыфтам. Мэта яго – прапаганда ў касьцёлах беларускага набажэнства... Скуль ён гэта ўзяў, – ня ведаем. У газэці «Беларус» дагэтуль ні слова не пісалася аб беларускім набажэнстві. Відаць не чытаў ён і «Беларуса», як не чытае «Нашае Нівы»..."* (Наша Ніва, 1915 №8). Гэты артыкул сведчыць пра тое, што ў 1915 годзе беларускі нацыянальны рух працягваў быць неаднародным і меў даволі выразныя кірункі. Да та-

го ж канфлікты паміж гэтымі плынямі распачыналіся ў тым ліку і праз знешнія дзеянні. Нашаніўцы працягвалі быць заклапочанымі актыўнасцю "Biełarusa" і рэлігійна-патрыятычнага руху. Першая сусветная вайна мусіла толькі падагрэць жарсці, паколькі і нашаніўцы, і беларускія клірыкі разумелі, што вайна будзе вымагаць як мага большай канцэнтрацыі нацыянальных сіл. Гэтае спаборніцтва паміж выданнямі нават прымусіла нашаніўцаў хлусіць на старонках сваёй газеты, бо вядома, што праграма "Biełarusa" ад пачатку ўключала барацьбу за ўвядзенне беларускай мовы ў касцёл.

На нашаніўскі артыкул адрэагаваў і "Виленский Вѣстник" у № 3560. Відаць, яны скарысталіся з нашаніўскага артыкула і паставіліся да "Biełarusa" негатыўна.

На абодва артыкулы, рэдакцыя "Biełarusa" ва ўласцівай ім традыцыі не адказала, а толькі напісала што: *"й hetu palemiku-hryzniu nia miszalisia my i nie budzim, dzielia taho, szto й naszaj prahramie lażyć sistematycznaja, cihaja praca z Boham, dla narodu, ale nia hryznia, katoraja sprawie niczuć ni pamahaje, a blizka zausiody szkodzić.[...] ustyja kryki ab praйdziwych, ci wydumanych kryйdach, dy samachwalstvo, tolki padaje praciйnikam u ruki arużże, katorym nas bjuć, jak heta zrabiй i «Вил. Вестникъ» pośla nirazumnaj staćci u «Н. Н.»"* (Biełarus, 1915 №13).

З аналізу вынікае, што рэакцыя на з'яўленне "Biełarusa" у тагачасным грамадстве была неадназначная. Таксама трэба адзначыць, што "Biełarus" трывала прытрымліваўся сваіх поглядаў і ніколі не ўвязваўся ў палеміку з іншымі выданнямі.

## Высновы

Аналіз газеты "Biełarus" паказвае некалькі цікавых момантаў, якія характарызавалі беларускі каталіцкі рух пачатку стагоддзя. Перш за ўсё, трэба адзначыць геаграфічную абмежаванасць аўдыторыі газеты. Нягледзячы на карэспандэнцыю з аддаленых куткоў Расіі і свету, пераважная большасць чытачоў газеты жыла ў непасрэднай блізкасці ад Вільні. Тым не менш выданне газеты сталася важным крокам для беларускага каталіцкага руху і для нацыянальнага Адраджэння ўвогуле. Сам факт таго, што выдаўцы здолелі знайсці фінансавую падтрымку і працягваць друкаваць выданне, да самай нямецкай акупацыі 1915 года з'яўляецца дасягненнем у тагачасных умовах. У дадатак да гэтага рэдакцыі газеты атрымалася зрабіць значны ўнёсак ў развіццё беларускамоўнай каталіцкай літаратуры, якая дагэтуль выдавалася толькі з ласкі касцёльных іерархаў. У рэшце рэшт, арганізацыя газеты стала добрай школай для маладых каталіцкіх актывістаў, што безумоўна паспрыяла міжваеннаму развіццю беларускага, ужо хрысціянскага, а не толькі каталіцкага руху.

Грамадская рэакцыя на беларускую каталіцкую газету "Biełarus" была неадназначнай. Можна сказаць, што для значнай часткі каталіцкага сялянства і інтэлігенцыі стварэнне газеты было станоўчай падзеяй. Гэта пацвярджаецца вялікай колькасцю лістоў з падзякамі ў рэдакцыю. Газета была падтрымана і часткай расійска-

га грамадства, якая вітала дэпаланізацыю касцёла, нават праз яго магчымую беларусізацыю. Гэтая частка расійскай публікі альбо не бачыла пагрозы ў развіцці беларускага руху, паколькі лічыла беларусаў надзейнай часткай трыадзінага народу, альбо прызнавала за беларусамі права на вольнае культурнае развіццё. Негатыўна да новага выдання ставіліся некаторыя расійскія кансерватары і нацыяналісты. Гэтая частка расійскага грамадства бачыла больш небяспекі для Імперыі не ў польскім каталіцкім касцёле, але ў магчымы беларускім сепаратызме. Увядзенне беларускай мовы ў касцёле значна павысіла б яе статус у вачах вернікаў-каталікоў, што магло значна ўскладніць палітыку русіфікацыі.

Неадназначна выданне газеты “Biełarus” ацаніла польскае грамадства. З аднаго боку, вітаючы каталіцкую газету, з іншага, яно разумела, што беларусізацыя касцёла можа падарваць сілы польскага нацыянальнага руху ў рэгіёне.

Насцярожана да “Biełarusa” паставіліся і нашаніўскія адраджэнцы. Новая газета, з яе каталіцкай скіраванасцю, выклікала ў часткі нашаніўскага кола насцярожанасць. Магчыма, меркавалася, што пры адсутнасці беларускага праваслаўнага выдання, каталіцкая беларуская газета можа скампраметаваць беларускі рух і адштурхнуць ад яго праваслаўных беларусаў. Гэтаксама пазначалася пагроза, што выдаўцы газеты кіраваліся перш за ўсё рэлігійнымі, а не нацыянальнымі інтарэсамі.

На жаль, габрэйская прэса таго часу не была ўключана ў гэтае даследаванне, як і дакументы рэдакцыі “Biełarusa”, у прыватнасці, Адам Станкевіч згадвае пра ўспаміны Баляслава Пачопкі, якія ён выкарыстоўваў як крыніцу па гісторыі газеты. Усё гэта пакідае абшар для далейшай працы ў па гэтай тэме.

“Biełarus” стаў прадвеснікам актыўнага развіцця беларускага хрысціянскага руху, які ахапіў ў пазнейшыя гады і праваслаўных, і пратэстантаў. “Biełarus” гэтаксама стаў адной з праяў разгалінавання беларускага нацыянальнага руху. Менавіта таму вывучэнне выдання дазваляе лепш зразумець першыя крокі станаўлення беларускай нацыі.

**Літаратура**


1. Анофранка, Н. і Гардзіенка, А. (2002). “Агляд моўнай палітыкі рыма-каталіцкага касцёла на Беларусі ў ХХ ст.”, *Terra Historica* №1, URL (доступ 07.03.2012): http://bk.baj.by/terra_historica/1_2002/anofranka.htm
2. *Вечерняя газета* (1913). №13. Вильна.
3. *Виленский Вестник* (1913). “Biełarus”. №2895. Вильна.
4. Гарбінскі, Юрась (1999). *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы. Мартыралогія, Успаміны,* URL (доступ 10.04.2012): http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/historia/harbinski/brd/brd_01.htm
5. Долбилов, Михаил (2010). *Русский край, чужая вера: Этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II.* Москва: Новое литературное обозрение.
6. Коли католики белоруссы... Lietuvos Mokslų Akademijos Vrublevskių Biblioteka. F43–25190.

7. Конан, Уладзімір (1993). “Беларус”, *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі* – Т. 1. Мінск: «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.
8. Маракоў, Леанід (2002а). “ПАЧОПКА Баляслаў Антонавіч”, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794–1991,* URL (доступ 12.03.2012):http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-ii?id=19709
9. Маракоў, Леанід (2002б). “Ядвігін Ш.”, *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794–1991,* URL (доступ 12.03.2012). http://www.marakou.by/by/davedniki/represavanyya-litaratary/tom-ii?id=19913
10. Надсан, Аляксандр (2006). *Княгіня Радзівіл і справа адраджэньня Уніі ў Беларусі.* Менск: БГА.
11. *Наша Ніва* (1913). “Новая газета”. №3. Вільня.
12. *Наша Ніва* (1915). №8. Вільня.
13. Смалянчук, Аляксандр (2001). *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях 1864–1917.* Гродна: ГрДУ.
14. Смалянчук, Аляксандр (2006). “Беларуская ідэя ў кантэксце нацыястваральных працэсаў у Еўропе (пачатак ХХ ст.)”, *Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя: матэрыялы IV Міжнароднага кангрэса беларусістаў “Беларуская культура ў кантэксце культур Еўрапейскіх краін”, Мінск, 6–9 чэрвеня 2005 г.* Мінск: Голас Радзімы.
15. Смалянчук, Аляксандр (2009). *“Ліцвінства, заходнерусізм і беларуская ідэя. XIX – пачатак XX ст.”,* URL (доступ 10.03.2012) http://kamunikat.org/7983.html
16. Станкевіч, Адам (2008). “Беларускі хрысціянскі рух (гістарычны нарыс)”, у Станкевіч А., *З Богам да Беларусі.* Вільня: Інстытут беларусістыкі.
17. Токть, Сергей (2011). “Белорусы в эпоху формирования модерных европейских наций (XIX – начало XX)”, у Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С., *Белорусы: нация Пограничья.* Вильнюс: ЕГУ.
18. Туронак, Юры (2008). “Беларускі каталіцызм учора і сёньня”, у Туронак Ю., *Мадэрная гісторыя Беларусі.* Вільня: Інстытут Беларусістыкі.
19. Astramovicz, A. (1914). *Z rodnaha zahonu.* Wilnia: Wydanie “Biełarusa”.
20. *Aušra* (1913). №2. Wilnius.
21. Banczkowski D., pieraklad F. Budzki (1914). *Karotkaje wyjasnennie abradau R. Katalickaha Kasciola.* Wilnia: Wydanie “Biełarusa”.
22. *Biełarus* (1913). №1. Wilnia: Znicz.
23. *Biełarus* (1913). №4. Wilnia: Znicz.
24. *Biełarus* (1913). №9. Wilnia: Znicz.
25. *Biełarus* (1914). №49. Wilnia: Znicz.
26. *Biełarus* (1914). №6. Wilnia: Znicz.
27. *Biełarus* (1915). №13. Wilnia: Znicz.
28. *Biełarus* (1915). №17 Wilnia: Znicz.
29. *Biełarus* (1915). №18 Wilnia: Znicz
30. *Biełarus* (1915). №4. Wilnia: Znicz.
31. *Biełarus* (1915). №6. Wilnia: Znicz.
32. *Biełarus* (1915). №7. Wilnia: Znicz.
33. Budzki, F. (1914). *Niekalki slou ab spakuse.* Wilnia: Wydanie “Biełarusa”.
34. *Gazeta codzienna* (1913). №13. Wilno.
35. Jelski, A. (1914) *Zyćcio papieża Piusa X.* Wilnia: Wydanie “Biełarusa”.
36. *Kurjer Krajowy* (1913). №12. Wilno.
37. *Kurjer Litewski* (1913). №15. Wilno.
38. Paczopka, B. (1915a). *Czalawiek na wyszyni cwajoj hodnaści,* Wilnia: Wydanie “Biełarusa”.

39. Paczopka, B. [P-ka B.] (1915b). *Boh z nami. Biełaruski madliteunik,* Wilnia.
40. *Przegląd Wileński* (1913). №3. Wilno.
41. Stankiewicz, Адам (1929). *Rodnaja mowa й światyniach.* Wilnia: Biełaruskaja Katalickaja Hramada.